# Вольная Беларусь

Цэна асобнага № 15 кап.

Умовы падпіскі ня 1917 г.

| За 1 м. | За 2 м. | За 3 м. | За 4 м. | За 5 м. | За 6 м. | За 7 м. | За 8 м. | За 9 м. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 р. | 2 р. | 3 р | 4 р. | 5 р. | 6 р. | 7 р. | 8 р. | 9 р. |

Падпіска прымаяцца толькі с 1-го чысла кожнаго месяца.

Перамена адрэсу—50 коп. Бры зьмені адрэса конча прыкладаць стары адрэс.

Рукапісы павінны быць чытэльна напіса_ы і толькі з аднаго боку папяры. Кепска п-рапісаныя рукапісы ні чытацца, ні друкавацца ня будуць.

На ліставання, перасылку рукапісау і іншыя адказы-павінны прыкладацца маркі.

Газэта палітычная, эканамічная і літэратурная.

Год выданьня I.

Адрэс рэданцыі і адміністрацыі: Мінск, Захарауск. 18

Умовы друку абвестак:

(На IV боку газэты) за 1 радок шпальту 40 к. за 2 рад. 80 к. за кожны раз.

Асобам, шукаючым працы — 1 руб. за 3 р дкі за адзін раз.

№ 22. 1917 г. Серада Выходзіць двойчы на тыдзень. 4 кастрычніка 1917 г. № 22.




## Нашы патрэбы.

Да гэтага часу Расія была і покі што застаецца дзяржаваю ні хаўруснаю, або, як кажуць, ні фэдэратыўнаю. Ні водзін народ у Расіі ня меў аўтаноміі, а жыў так, як загадвалі яму с Петраграду цар і яго служкі. Манархічная Расія уяўляла с сябе вялізарную казарму, дзе павінны былі жыць адным парадкам, слухаць аднае каманды. Усе народы і краі Расіі былі цесна зьвязаны паміж сабою, але ні добрахвотным пярэвяслам братэрскага пачуцьця, а прымусам і прынукаю, ланцугамі царскага самадзяржавія, на кшталт таго, як зьвязывалі колісь катаржнікаў, заганяючы іх у Сібір.

Німа чаго казаць, што такое супольнае жыцьцё народаў ні мае жаднай вартасьці, і пры першай прыгодзі рвецца, як гнілая нітка. Толькі дабрахвотная, палюбоўная супольнасьць моцна зьвязвае людзей і стварае грунтоўную і магутную дзяржаву. Гэта мы бачым на прыкладзі Англіі, Амэрыканскіх Злучаных Штатаў і самой Гэрманіі, с каторай мы цяпер ваюем. У гэтых дзяржавах ні толькі кожны асобны народ, але і кожная асобная па жыцьцёваму укладу частка дзяржавы мае свае парадкі, свае законы і установы. Раней за ўсіх зразумела патрэбу і ніухільнасьць аўтаноміі Англія. Праўда, дорага гэта ёй каштавала,—за сваю навуку яна заплаціла стратаю багатае калёніі—Поўночн. Амэрык. Злучаных Штатаў, але раз дасьведчыўшыся, што сіламоц нікога утрымаць нельга, яна павярнула на іншую дарогу і цяпер сама спрыяе і дапамагае завядзэнню аўтаномнага ладу. Сваёю разумнаю палітыкай яна утрымала за сабою Канаду, частка якой хацела прылучыцца да суседніх Злучаных Амэр. Штатаў і умацавала прыхільнасьць прылучаных да сябе вайною бураў у Афрыцы. За цяперашнюю вайну гэтыя калёніі многа дапамаглі Англіі грашмі, людзьмі і ваеннымі прыладамі, хоць маглі і ня рабіць гэтага.

Усе гэтыя прыклады сьведчуць пра тое, што аўтаномны лад дзяржавы ня аслабляе і ня разлучае дзяржаву, а, на адварот, спрыяе таму, каб яна узмацнялася ды зноў злучалася нават тагды, калі распад ужо пачаўся. Значэ, тыя людзі, што палохаюць распадам дзяржавы пры завядзэнні аўтаномнага ладу, ня маюць пад сабаю жаднага грунту. Яны або кепска дасьведчаны у гэтым пытанні, або наўмысьля, маючы на увазі уласную карысьць і рахуючы выкарыстаць чужую нідасьвечнасьць, пускаюць байкі пра шкадлівы уплыў аўтаномнага ладу. Гэта трэба запяматаць і, адхіліўшы усялякія нагаворы, як мага дамагацца аўтаномнага ладу для свайго роднага краю. Мы павінны мець свой беларускі парлямэнт, сваю Беларускую Краёву Раду, цалкам нізалежную у межах свайго краёвага законадаўства ад цэнтральнага, агульнадзяржаўнага ураду. Толькія такія справы, як зносіны з заграНічнымі дзяржавамі, мытна, грашавая сыстэма, вярхоўнае кіраўніцтва ваеннымі сіламі, важнейшыя залезныя дарогі,—павінны знаходзіцца пад загадам агульнадзяржаўнай уласьці, каторая гэтак сама, павінна складацца с прэдстаўнікоў усіх нацый і краёў. Агульнадзяржаўная уласьць павінна быць прэдстаўніцай усіх людзей, усіх народаў і краёў і іх аб'еднаць.

Мала дабіцца рэспублікі, трэба дамагацца яшчэ і таго, каб рэспубліка была і фэдэрацыйнай, або хаўруснай па латыні, кожны край, кожны асобны народ каб меў сваю аўтаномію. У Францыі рэспубліка істнуе ужо больш соткі год, але яна цэнтралістычна. Там, як і у нас цяпер і як было гэта пры царызму, усім загадваюць міністры с Парыжу, а міністраў прызначае агульна-дзяржаўны парлямэнт. Пры кожнай перамені большасьці у парлямэнці, зьмяняюцца і міністры. Жыцьце валтузіцца кожны раз пры зьмені загадчыкаў-міністраў. У самых дробных мейсцовых справах трэба чакаць дазволу і ласкі цэнтральнага правіцельства. Такая рэспубліка нас ня здавольняе. Мы усе патаміліся страшным і прыкрым цэнтралізмам старога, скінутага рэжыму і ня хочам, каб ён жыў даляй, хоць бы і пад рэспубліканскім чырвоным сьцягам. Мы хочам, каб у нашым краю будавалі сваё жыцьцё нашы людзі і каб у нашы беларускія справы не мешалася цэнтральная уласьць з Масквы ці с Петраграду. Мы хочам, каб зьнікла нарэсьці тая абрыдлая, да сьмерці шкадлівая розьніца паміж дзяржаўнаю і нідзяржаўнаю нацыяй, каторая высмоктвала з нас усе нашы сілы. Мы хочам, каб усе народы былі дзяржаўнымі на сваёй зямлі.

Усе у адзін голас кажуць, што Беларусь самы бедны край, а народ наш самы цёмны пасярод народаў Расіі, але ніхто даладне ня раскэзаў, чаму гэта так, чаму Беларусь, колісь складаўшая магутнае Літоўска-рускае гасударства, ня ведаўшая татаршчыны, дыктаваўшая сваю волю Маскве, прылучыўшая да сябе усю багатую Украіну,—чаму цяпер дайшла да такога занепаду? Беларусь наша бедна, а народ наш цёмны ні за тым, што ён горшы за другіх, або ня мае здатнасьці да навукі і прасьветы. Нядоля наша у тым, што мы, страціўшы сваю нізалежнасьць, па цяжкім умовам гісторыі, ня здолалі абстаяць сваю нацыянальную самабытнасьць і сталі папасам для суседзяў, спажыткоўнаю ніваю для чужынцаў. Яны высмоктвалі з нас апошнія сокі, адбіралі у нас нашых лепшых людзей [Міцкевіч, Касьцюшка, Дастаеўскі] і зруйнавалі краіну нашу да сучаснага становішча. Але гэта мінулася, ні дарма настала свабода. Мы павінны дабіцца сабе аўтаноміі і стварыць у сябе свае уласныя беларускія парадкі і зажыць сваім уласным беларускім жыцьцём. Годзі быць пашаю для чужынцаў, годзі карміць чужынцаў сабе на згубу і пастаянную пакуту. Аўтаномія для нас—пытанне жыцьця і сьмерці. Калі мы любім свой край, калі жадаем сабе лепшае долі, калі абрыдзела нам парабецтва, калі мы ня страцілі да шчэнту свайго нацыянальнанага гонару і ня рашыліся чалавечнай вартасьці,—дык мы павінны стаць на ўласныя ногі. Мы павінны дамагацца самакіравання, бо цэнтралізм маскоўскі і уплыў польскі заесьць нас дазвання. Цэлыя соткі год нас апалячвалі, больш як сто год нас амаскалівалі, але ні паланізм, ні русіцызм ня крануўся народу нашага ані звання. Народ ў істоці сваёй застаўся ніпарушаным. У гэтым наша сіла, наша збавенне і залог сьветлай будучыны.

Я. Л.

## Зьезд народаў.

[Глядз. № 21].

### Рада Народаў.

Для апрацавання і ужытку усіх тых заходаў, каторыя будуць патрэбнымі дзеля выкапання тых заданняў нацыянальнага і краёвага аўтаномна-фэдэрацыйнага будаўніцтва і дзеля арганізавання Суполкі Народаў, зьезд пастанавіў утварыць складзены па паказаных даляй пачатках асобны, поўнамочны орган—Раду Народаў.

1] У склад Рады народаў мае увайці па 4 члены ад кожнага народу, які меў прэдстаўніцтва па зьездзі;

2] пры голасаванні кожын народ мае два голасы, нізалежна ад ліку поўнапраўных членаў Рады Народаў падаНаму пасядзэню прэдстаўнікоў гэтага народу;

3] Радзі Народаў належыць права прымаць у свой склад прэдстаўнікоў ад тых народаў, каторыя ня былі прэдстаўлены на зьездзі; гэтыя новыя члены маюць аднакае права з іншымі сталымі членамі Рады;

4] Рада Народаў мае права каоптаваць па свайму бажанню патрэбных для працы людзей с правам дарадчага голасу.

5] Радзі Народаў надаецца права заводзіць пры сабе ўсе тыя установы, якія будуць патрэбны пры яе працы і зрабіць дзеля гэтага патрэбныя выдаткі;

6] Дзеля аб'еднання працы нацыянальных вайсковых арганізацый пры Радзі Народаў можа быць утворан цэнтральны вайсковы камітэт;

7] У справі свайго распарадку Рада Народаў сама павінна апрацаваць пастаянны рэгламэнт;

8] Рада Народаў знаходзіцца у Кіеві, але пры патрэбі Рада можа заседаць і у іншым мейсцы.

### «Совѣтъ національностей.»

Зьезд Народаў, маючы на увазі адбудаванне рэспублікі, міжнародавае становішча Расіі падчас вайны, выпрабленне найбольш зручных і для ўсіх народаў аднака прыдатных умоў пачэснага міру, заўважвае, што Часовы Урад зацікаўлен у падтрыманні і аўтарытэтных парадах з боку усіх народаў Расіі, дзеля таго трэба пераменіць «Особое совѣщаніе по областной реформѣ» на «Совѣтъ національностей» пры Часовым Урадзі, які мае быць органом дзеля абароны інтэрэсаў нацыянальнасьцяў.

### Пра Устаноўчыя Соймы.

Зьезд Народаў уважае, што нізалежна ад склікання Усерасійскага Устаноўчага Сойму, павінны быць склікаНы на дэмакратычных пачатках краёвыя Устаноўчыя Соймы, каторыя маюць устанавіць як нормы сваіх адносін да цэнтральных органоў фэдэрацыі, так і канкрэтныя формы ўнутрашняй арганізацыі аўтаномных інстытуцый таго ці іншага народу, або краю.

### Пра міравую канфэрэнцыю і сучасны момэнт.

Зьезд Народаў пастанавіў, што да прэдстаўніцтва Расіі на міравой конфэрэнцыі павінны быць далучаны прэдстаўнікі зацікаўленых нідзяржаўных народаў; што абвязкова трэба абвесьціць прынцыпы поўнага самаадзначэння народаў, што расійская рэспубліка фэдэрацыйная і дэмакратычная і уводзіць гэта у жыцьцё; што абвешчэнне Расіі фэдэрацыйнай рэспублікай можа прыдаць яснасьці у сучасных варунках і спрыяць заходам да пачэснага міру, которага прагнуць усе народы; што толькі нацыяналізацыя войска пад кіраўніцтвам рэв.-дэмак. нацыянальных арганізацый і адпаведнае перабудаванне тылу пры дапамозі тых самых арганізацый можа падняць здатнасьць дзяржавы да самаабароны і паблізіць дасягненне пачэснага міру; нібаўна распачаць сыстэматычнае разгружэнне фронту ад усіх лішніх, мала здатных да вайны пры зімовых умовах людзей, а гэтак сама ад ніпатрэбных мас жывёлы і інвэнтару, што значна зьменшыць безладзе і выратуе Расію ад загібелі.

### Пра нацыанальна-персанальную аўтаномію.

Зважаючы на тое: а) што цалкавітае тэрытарыальнае размежаванне заселяючых Расію народаў німагчыма; б) што паміж імі ёсьць народы, каторыя ня складаюць большасьці ні у водным краю; в) што нацыанальна-тэрыторыальная аўтаномія ня развязвае да канца пытання нацыанальных меньшасьцяў і малых нацыяў,—Зьезд Народаў пастанавіў:

1] кожын з населяючых Расію народаў мае права на нацыанальна-персональную аўтаномію, тоест, на арганізаванне нацыі у публічна-прававую суполку, да якой могуць далучацца усе члены даннага народу на усім прасторы дзяржавы;

2] сфэра компэтэнцыі, а гэтак сама конкрэтныя формы унутрашняй арганізацыі нацыанальна-аўтаномнага інстытута вызначаюцца нацыанальным устаноўчым соймам пэўнага (даннаго) народу, скліканым на аснові дэмакратычнай формулы;

3] дзяржаўны закон забезпечвае нацыанальным меншасьцям, дасягаючым у пэўным краю прызначанага законам мінімума, права карыстацца сваёю мовою, як у мейсцовых дзяржаўных ці краёвых установах, так і у інстытуцыях мейсцовага самакіравання.

### Пра беларусаў.

Зьезд Народаў, выслухаўшы заяву прэдстаўнікаў Цэнтральнае Рады беларускіх арганізацый пра тое, што значнай частцы Беларусі, захоплянай ворагам, пагражае небезпечнасьць быць адрэзанаю ад рэшты Беларусі, і зважаючы на тое, што такі гвалтоўны разбор быў бы найцяжэйшым парушэнням права беларускага народу на самаадзначэнне,—лічыць патрэбным, каб Часовы Урад нібаўна выдаў дэкрэт пра аўтаномію Беларусі у межах расійскай дэмакратычнай фэдэра-

поля.

Нашай справі стала горэй, бо усе пачалі гаварыць, што «трэба перш прагнаць немца, а посьля ужо дзяліцца,» і, апроч таго, былі забаронены уселякія мітынгі на фронці і ў районі залезных дарог. А Мінская губэрня блізка ўся ляжыць ў прыфронтавай паласе. Але ні кідаць жа мне таго, дзеля чаго я црыехаў!

Жыцьцё тут па мястэчках вельмі дарагое, а фурманкі яшчэ дарожшыя. На адны фурманкі мне трэба былоб выдаць ўсе грошы, якія былі са мною.

Адзін наш прыхільнік парадзіў мне ехаць у Мінск і ўзяць працу с.-гаспадарскай перэпісі ў Рэчыцкім павеці, каб мець дармавыя фурманкі. Я так і зрабіў. 19-га ліпня я быў ў Мінскай Губ. Зем. Упр. і, дзеля таго, што я ужо правёў перэпіс у Маскоўскай губ. мяне адразу паслалі інструктарам ў Рэчыцкі павет, куды я прасіўся.

Я хацеў ўзяць сабе участак, дзе мне найлепей можна былоб весьці прапаганду, але Губ. Упр. запрапанавала Рэчыцкаму Вучыц. Саюзу даць ад сабе 8 інструктароў па перэпісі. Гэтыя ягомасьці, не азнаёміўшыся яшчэ з працаю, адразу разабралі лепшыя участкі, а мне заставілі участак у куце Рэчыцкага павету, па Прыпяці, ў Нараўлянскай воласьці, дзе адчуваецца значны ўплыў на нашу мову украінскае мовы. Я прапанаваў настаўнікам перш пазнаёміцца з работаю, а посьля, калі яны да яе здольны, кінуць лёс, каму які дастанецца вучастак. Але яны на гэта ні згадзіліся і нават ні хацелі, каб я працаваў простым рэгістратарам ў іх вучастках. Мне трэба было адпрацаваць аванс. Мая прапаганда у самай Рэчыцы была вядома вучыцялям, і ім ~~ні~~ хацелося мець ў сваіх участках прапагандысту, каторы, апроч таго, ў статыстыцы больш разумея, як яны. Каб не прапаў аванс, мяне ўсё ж такі паслалі ў район каморніка К. у Хойрыцкую і Юрэвічскую воласці. Блізка 2 месяцы я працаваў разам і на прапагандзі і на перэпісі. За гэты час перэпісаў 15 вёсак. Увесь апрос і размову з людзьмі вёў па-беларуску. Дзеля таго, што я «па-просту» гаварыў, ў іншых вёсках думалі, што я і не умею гаварыць па расійску і гатовы былі прыняць мяне спачатку за нямецкага шпіона. Але у мяне былі свядоцтва і ад Управы і ад Выканаўч. Валасн. Камітэтаў.

На сходах я выясьняў людзям велькае значэнне перэпісі дзеля надзеленьня іх зямлёю, зварочаў іх увагу на тое, якой яны нацыянальнасьці, ці якога яны народу: туркі, татары, цыганэ, жыдэ, ці інакшыя.

Праваслаўныя называлі сябе рускімі (расійцамі), а каталікі—палякамі. Я ім гаварыў, што грэкі так сама праваслаўныя, французы—каталікі, але ж яны ні называюцца ні рускімі, ні палякамі. Тагды нашым людзям станавілася ясна, што яны ні расійцы, ні палякі, і я ім гаварыў, што ў расійскіх і ў польскіх кнігах іх называюць беларусамі. Пазнаёміўшы іх з слыннаю гісторыяй нашае мовы, я чытаў ім вершы з Янкі Купалы. Большае радасьці, здаецца мне, гэтыя людзі ніколі ня мелі, як слухаючы пекныя вершы у роднай мові з жыцьця беларускага.

Працаваць прыходзілось па 18 гадзін у дзень. Трэба было ўставаць з усходам сонца і сядзець па вячарох да 12-ае гадзіны ночы, бо рана і у вечар найболыш падходзіў народ. Адна зямельная справа магла адэрваць людзей ад гарачае работы на полі і на сенажацях і сабраць іх, і з гэтага трэба было карыстаць і дзеля нашае справы.

У 15 вёсках я застаўляў, апроч таго, пракламацыі, брашуры, кнігі у нашай мові. У каждай вёсцы маю прыхільнікаў нашага руху, адрэсы каторых я запісаў. Яны мяне прасілі застаўляць у іх кнігі і газэты, якія былі са мной. Адно адну кнігу «Шляхам жыцьця» я трымаў пры сабе да канца перапісі, каб мець з чаго чытаць, але і тую ў канцы купіў у мяне мой інструктар, каморнік. Сярод селян моцная цяга да зямлі. У іншых вёсках праз камітэты разабралі панскія і казенныя сенажаці і зямлю, але ня роўна: хто свайго меў многа, той больш узяў і ад камітэтаў, асабліва, калі ён меў там ўплыў. Самыя бедныя і самыя багатыя гаспадаркі нічога ня бралі, апошнія можа дзеля таго, што і з сваімі сенажацямі ня маглі справіцца самі а першыя ня мелі за што наняць іх абрабіць.

З другога боку селяне ня хацелі, каб запісываліся беззямельныя, ніпрыпісаныя да іх обчэства; і у спіскі іх ня заносілі. Посьля пры перэпісі прыходзілі і беззямельныя самі, і іх трэба было запісаць.

Скуткам мае працы ужо заложана чытальня у вёсцы Рудное праз рэаліста Т. Назарэнка. У недалекім часі яшчэ заложыцца 5 альбо 6 чытальняў пры помачы гэтага прыхільніка.

Некаторыя вёскі маюць больш, як па сто двароў, а не маюць школы. У такіх вёсках, як Гноево, Рудное, канечна трэба адчыніць школу з выкладам у беларускай мові.

У вёсцы Чэрноўшчыні хлопчык так зацікавіўся беларускімі вершамі, што папрасіў у мяне перэпісаць тыя вершы, што я чытаў. У Ломашы хлопчык чытаў «За што» Янкі Купалы.

Перэпісь паказала мне, што у нас гаспадарка многа лепяй стаіць, як у Велікарасіі. Самы бедны двор у нас трымае 2—3 сьвіней і садзіць 20—30 пудоў картоплі. А ў Расіі часта цэлая вёска ня мае жаднага свінчаці, а картопля у іх так дарагая, як у нас яблакі. Ня сеюць тут у нас канюшыны, бо іначэй, хажуць нашые людзі, ня будзе дзе пасеяць хлеба і картоплі.

Сьвіней многа, хоць на ім пошэсьць: ні вэтэрынары, ні двары не даюць жаднае помачы селянам.

Быдла у многазямельных часта бывае меньш, як у малазямельных, бо была ні адна рэквізыцыя на яго: «в о і н с т в а п а е л а т а в а р», як кажуць селяне.

З знішчэннем панскіх двароў земля пяройдзе да рук землиробаў. Тагды народ пазнае самаго сябе, бо будзе мець дастатак. Але кажуць, трэба дварэ заставіць, калі яны правідлова вядуць гаспадарку, але на пана землю ня можна нават ступіць, ні адно што навучыцца, як працаваць на зямлі, ня можна нават за грошы адважыць на яго вазі воз сена ці саломы; ня можна за грошы злучыць свае каровы з завадзкім панскім бугаём. А калі пан убачыць, што у мужыка ёсьць завадское цялё з яго быдла, то і на яго вачах застрэліць, абы той ня меў добрае скаціны. [Тут вінават ні пан, а звычайная конкурэнцыя. Рэд.]

Кармілі мяне звычайнымі смачнымі беларускімі патравамі: аладкамі (із мукі з дранай картопляй] з пражаным салам, альбо ячняю, альбо смятанаю. На абед варылі боршч. Картоплі і малака давалі ў волю. Як жывеш на вёсцы, дык ня хочацца верыць, што гарадэ бяз хлеба.

Дзеля нашае справы нам трэба мець уласныя моторы і на перапіс сваіх рэгістратароў. Найлепшы спосаб прыводзіць якую ідэю у народзі праз статыстыкаў-рэгістратараў. Ня дарма да рэвалюцыі быў такі паход на статыстыку, і адно «благонамеренных» дапускалі да працы. У канцу скажу, што каб я ня зрабіўся рэгістратарам, то для свае справы нічога ня зрабіў бы.

**А. Д.**



## Канфэрэнцыя нацыанальна-сацыялістычных партый.

(Карэспадэнція).

Толькі зрэдку, дзе-ні-дзе у газэтах маленькімі літарамі было абвешчано, што Рада нацыанальна-сацыялістычных партый Расіі склікае канфэрэнцыю гэтых партый. Шмат хто, між буйнейшых літараў газэт, і ня прыкмеціў дробнага пэтыту, паведамляючага аб зьездзі сацыялістаў расійскіх народаў, які мае залажыць Расійскі Інтэрнацыянал дзеля барацьбы за сацыялізм і нацыянальнае развіцьцё нідзяржаўных, уціснутых народаў.

Прачытвалі абвестку і пэўна ірацічна сьмеяліся і недбайна махалі рукамі, скрозь зубы праказаўшы: «Што яны сабе думаюць! Чаму яны расколваюць ёдыны сацыялістычны рух Расійскай дэмакратыі. Няўжо яшчэ іх ні навучылі Фінляндзія і Украіна?!» Вядома, гэта маглі казаць толькі заўзятыя цэнтралісты, дагэтуль ні збаўляныя ад велікадзяржаўнасці «у мэтоду мышленія»; па адбудаваньню палітычнага жыцьця расійскай рэспублікі.

Тым жа хто склікаў канфэрэнцыю, было дужа весела на сэрцы і радасна на душы: яны будавалі Інтэрнацыанал, яны разбівалі цііжарныя іржавыя ланцугі, на якіх былі прывязаны яны вякавым ворагам іх народаў, цкуючага адзін народ на другі і сеючы сварку і звадку паміж працоўным народам рожных нацыяў.

І трэ было быць таму, хто хацеў-бы праканацца у праўдзівасьці маіх слоў, у тым залю, дзе зышлося да 50 прэдстаўнікаў ад 11 народнасьцяў, злучаных між сабою на плятформі захаваньня права народаў ад пасягу на іх з боку вялікіх зьедцаў і зруйнавойцаў-народаў, каб вынясьці сваё уражэньня аб новай зьяві народнага братэрства.

Трэ было паслухаць гутаркі на розных мовах. Вясёлы настрой усіх сябраў канфэрэнцыі, злучаннасьць супольна-людзкая, еднасьць думак і жаданьняў працы.

Вось адчыняецца канфэрэнцыя т. старшынёю і у прадмові яно адмечаецца вялікая вага яе, выробляецца канва для шчырага суседзтва міжнароднага. «Дагэтуль былі дзьве канфэрэнцыі нацыанальна-сацыял. партыяў,—кажа старшыня,—але яны былі склікаяы таемна і праз тое у дужа малым ліку. Цяпер мы дажылі да другога,—калі у свабоднай краіні свабодна гаворым аб сваіх патрэбах!»

За ім гавораць цэлы цуг прамоўцаў ад рожных партыяў, і праяўляюць усе, як адзін, патрэбнасьць узяць лёс сваіх краёў і народаў у свае рукі.

Ніхто і нідзе ні павінян развяжаць жыцьця і долі малых народаў, бяз іх самых!..

Ад гэтага дужа шмат стала шкоды і шмат можа быць яе, калі ні толькі камандуючы урад, але і сацыялісты не ад-

* * *

Цяклі гады—іх шмат мінула—
Капыль шчасьлівым доўга жыў.
Бяда зусім яго ня чула,
І гора люд яго й ня сьніў.
Але аднэй ліхой гадзінай
Зьмяніў яму няверны лёс,
І раптам гора няупынна
У замену шчасьця нёс і нёс.
С чужых краёў грамадай дзікай
Напалі злыя ворагі
І горад пекны і валікі,
Зглумілі горад дарагі.
Людзей бязсэрдна катавалі—
Нажамі рэзалі наўкруг,
І замак князя зруйнувалі,
На крыж распяўшы яго слуг.
І толькі цудам князь с сямьёю
Уцяклі у Слуцак к сваяком,
Глухою ночкаю цямною
У возі сена з мужыком.

* * *

На зьмену пекнага Капылю
Глядзеў абраз нямых руін,
Што годы крэпла—ў вадну хвілю
Занішчыў гневу дзікі сын...
Услед за гэтым маравая
На сотнях мерцвіла людзей.
Сабе ў ахвяру забірала
А дзе старых, а дзе дзяцей.
І Нёман цёмны, нібязпечны
Апасьля гэнага зьмяніў
Свой пуць стары, свой пуць адвечны,
Які ад роду пралажыў.
Кудысь на заход, на тры мілі
Хутчэй, паспешна адышоў.
І стаў Капыль зусім няўзнаным,
І стаў Капыль зусім ня той,
Як раб бязмоцны перад панам,
Як восянь тая прад вясной...

* * *

Аднак сібірнасьць, безпагаднасьць
Усіх дзікіх мук ён перанёс,
Схаваўшы дзён былую слаўнасьць
На глебя роднай ён васкрос.
І хоць другім, нудлівым, цесным,
А ўсё ж жыве сваім жыцьцём,
І мае ён лягэнды, песьні,
Аб слаўным, шчасным тым былом,
Ды хто праведае, хто скажа
С сабой, што йдучая нясе?!
А мо фундамэнтам ён ляжа
Жыцьця ўскрашаючай красе?!

* * *

Люблю цябе, Капыль мой родны!
Люблю ваколны твой абраз,
Бывалы час пары свабоднай,
Й пары сучаснай горкі час.
Люблю людзей тваіх схудзелых,
І сумны, змучаны пагляд,
З саломы новай жоўта-белай
Страхі убогіх, нізкіх хат.
Працягі пыльных вуліц летам
І зелянь рутную садоў;
Зімою ж пекна разадзеты
Наслоям выпаўшых снягоў.
Люблю я цэркву, што пры горцы
Стаіць між вісячых бяроз,
Вітаньня шлючых кожнай зорцы
І летам цёплым і ў мароз.
І дзьве касцёла пекных вежы,
Абачных вокал ад дзьвух міль,
Адзетых ў белую адзежу,
Якую ім уздзеў Капыль.
Люблю ад раньня і пры змроку
Касцёлу й цэрквы гучны звон,
Нясучы зоў наўкол далёка,
Завучы люд з усіх старон.
Той цуг пачуўшых звону зовы
Спяшачых вуліцай людзей,
Іх гоман пекнай роднай мовай,
Што льецца з змучаных грудзей.
Люблю яшчэ палёў абшары,
Прыпадкам выхаваны гай,
І неба тое, што бяз хмары
На скрозь аблягае ўвесь край;
Даліну тую, што бывала,
У мінулай славы тыя дні
Рэка свабодна хвалявала
Ваду нязмернай глыбіні—
Усё, усё люблю, як толькі
Хто можа так калі любіць!
І точаць сэрца маё болькі,
Што людзям цяжка яго жыць,
Што лёс сібірны на працягу
Сямі с паловаю вякоў
Прыбіў у ём да шчасьця прагу
Й зьняволіў гардых жыхароў...
А ўсёж сярод тэй цёмнай ночы
Яго маркотнага жыцьця,
Праменьня яснае бліскоча
І родзіць хвалі пачуцьця.
Душа дзядоў дзядовых скрыла
Ў сабе сучасный пекны з'яў,
І ў казку с кветкаю ўрасціла,
Каб праўнук ею карыстаў.
Каб ён, сумеўшы азірнуцца
У гісторыю жоўтыя лісты,
Мог сэрцам радым ўздрыгнуцца
У аглядзе дзіўнай красаты.
І ўперад кінуўшы паглядам—
Сумеў адчуць мінулы час,
Калі жыцьцё Капылю радым
Пакажа сумны свой пагляд.

* * *

Чакай і вер ў настаньне лета
Капылю роднага, жыхар!
Чакай і вер, як я, паэта —
Нічэмны, знішчаны дудар,
Няхай цябе уцешаць словы
Лягэндаў пекных, што жывуць
У жыцьцю мястэчка й пекнай мовай
Надзею й веру засяюць.
Калі ў зямлі ляжыць крыніца—
То кверху выб'ецца яна!
Дзе дух жывы ня змог стушыцца—
Там сьмерці тупіцца каса...

**Цішка Гартны**

Петраград 11/IX 1914 г.

